«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№3(27) март 2012

# “ЁН СЭРЦА НАМ СВАЁ ПАКІНУЎ”

У Верхнядзвінску прайшла імпрэза “Ён сэрца нам сваё пакінуў”, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння **Тараса Хадкевіча.**

Расказвае **Валянціна Болбат**, удзельніца сустрэчы:

**Свае ён творы нам пакінуў**
**І радасць першае вясны.**
**Ён так любіў сваё Наддзвінне,**
**Што сам стаў песняю Дзвіны**

“Песня Дзвіны”, менавіта так называўся і адзін з апошніх твораў нашага земляка Тараса Хадкевіча, святкаванне 100-годдзя з дня нараджэння якога адзначалася якраз ў святочныя сакавіцкія дні. Да землякоў Тараса Хадкевіча, якога вельмі любілі і паважалі ў Шайцераве, малой радзіме пісьменніка, прыехалі самыя блізкія яму людзі - сын Леанід, дачка Вета, унукі, супрацоўніца Нацыянальнай бібліятэкі І.Думанская.

Госці пабывалі ў Шайцераўскай сярэдняй школе, дзе створаны куток, прысвечаны памяці Тараса Хадкевіча, а потым—сустрэча ў мясцовым Доме культуры, дзе гучалі ўспаміны і ўрыўкі з яго твораў у выкананні мясцовых школьнікаў, вітальныя песні.

Дзеці Тараса Хадкевіча, сын Леанід і дачка Вета, у чарговы раз прыехалі не з пустымі рукамі. Яны прывезлі матэрыялы для будучага музея свайго бацькі, які запланавана адкрыць у той хаце, дзе некалі жыла сям’я Хадкевічаў. Гэта асабістыя рэчы, рукапіс аповесці “Вяснянка”, якая напісана ў Шайцерава ў 1947 годзе, кнігі з асабістыімі подпісамі пісьменнікаў, з якімі сябраваў Т.Хадкевіч. А потым прайшла сустрэча і



з сябрамі “Клуба цікавых сустрэч”, на якой, за кубкам кавы-гарбаты, ішла шчырая гаворка-успамін аб таленавітым пісьменніку і выключна шчырым і адданым сваёй радзіме чалавеку — Тарасу Хадкевічу.

Ад імя грамадскіх актывістаў раёна былі ўручаны падарункі, а тое, што сустрэча праходзіла ў святочныя сакавіцкія дні , з гэтай нагоды гучалі песні-віншаванні, вершы ў выканані мужчын, сябраў клуба. Гасціннымі гаспадарамі пасяджэння клуба сталі сям’я **Васіля і Людмілы Рудой.**

# СПАЧАТКУ АДМОВІЎ ГАРВЫКАНКАМ, ПОТЫМ СУД

**Віцебскі гарвыканкам забараніў праводзіць 25 сакавіка шэсьце і ўрачысты сход да Дня Волі. Абскардзіць адмову ўладаў у судзе таксама не ўдалося.**

У лісьце з гарвыканкаму, падпісаным намесьнікам старшыні **Ўладзімерам Шломам,** было сказана, што віцебскія актывісты просяць дазволу на правядзеньне акцыяў у неналежных месцах. Гэта і стала прычынай адмовы **Хрыстафору Жаляпаву**, **Яну Дзяржаўцаву** і **Аляксею Гаўруцікаву.**

Усе трое падалі скаргу на дзеяньні спадара Шломы ў Кастрычніцкі райсуд, аднак чыноўнік у суд не зьявіўся — замест яго на працэсе выступала юрыст **Сьвятлана Рагажынская**, а сьведкам была намесьніца начальніка аддзелу ідэалёгіі Віцебскага гарвыканкаму **Ірына Пучкова.**

Паводле Аляксея Гаўруцікава, гарвыканкам праігнараваў адзін з пунктаў свайго ж рашэньня, а судзьдзя **Алена Папкова** не прыняла да ўвагі аргумэнтацыю дэмакратычных актывістаў:

«Мы зьвярталіся ў гарвыканкам, бо шэсьце і мітынг павінны былі б адбывацца на тэрыторыі розных раёнаў. Нашым намерам было правядзеньне ня пэўнай акцыі ў канкрэтным месцы, а пераход урачыстым шэсьцем ад культурна-дзелавога цэнтру «Марка-сіці» да плошчы Свабоды. У пункце № 2 рашэньня гарвыканкаму № 881 ад 2009 году якраз і вядзецца «аб іншых масавых мерапрыемствах», месцы правядзеньня якіх «вызначаюцца ў кожным канкрэтным выпадку». Але спадарыня Пучкова заявіла, што «іншыя» мерапрыемствы — гэта ня шэсьце і ня сход, а імпрэзы «спартовыя, культурніцка-відовішчныя і рэлігійныя».

Прадстаўніца гарвыканкаму Сьвятлана Рагажынская заявіла, што шэсьце сотні чалавек можа «перакрыць цэнтральную артэрыю Віцебску», хоць ад «Марка-сіці» да плошчы Свабоды менш як 200 мэтраў. Таксама яна заявіла, што такія скаргі — гэта «проста марнаваньне часу».

У віцебскіх прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў іншае меркаваньне: ужо другі год, як ім не дазваляюць ніводнай імпрэзы. Адзіная магчымасьць прадэманстраваць нязгоду з пазыцыяй уладаў — гэта падаць на іх у суд. Таму рашэньне Кастрычніцкага райсуду, які адхіліў скаргу Хрыстафора Жаляпава, Яна Дзяржаўцава і Аляксея Гаўруцікава, яны зьбіраюцца аспрэчваць у абласным судзе.

**Радыё Свабода**

# ШКОЛА НОВЫХ МЭДЫЯЎ ДЛЯ МОЛАДЗІ

**У школу новых мэдыяў "Public Republic" запрашаюцца маладыя людзі ад 18 да 29 гадоў, жыхары Віцебска й Віцебскай вобласьці. Досьвед у мэдыях неабавязковы.**

У межах школы адбудуцца заняткі па тэмах: рэпартажны фотаздымак, рэпартажнае відэа, камунікатыўны дызайн, уэб-журналістыка, сацыяльныя сеткі, мабільны офіс.

Курс цягнецца з красавіка па ліпень 2012 году. Заняткі праходзяць па выходных днях (субота і/альбо нядзеля) у цэнтры Віцебска.

Каб узяць удзел у курсе, неабходна даслаць наступныя дадзеныя: імя, прозьвішча; дзень, месяц, год нараджэньня; месца сталага пражываньня; месца працы альбо вучобы; кантактныя дадзеныя: мабільны тэлефон, e-mail; досьвед працы з мэдыя-сродкамі, фота, відэа, журналісцкімі тэкстамі, PR (пры наяўнасьці); спасылкі на асабістыя акаўнты ў сацыяльных сетках (пры наяўнасьці); чаму вы вырашылі ўдзельнічаць у курсе "Public Republic" на электронны адрас: publicrepublic2012@gmail.com

Апошні тэрмін падачы заявак: 27 сакавіка 2012 году. Падрабязная інфармацыя – на сайце: www.publicrepublic.info

# «НЕ РАСЧАРУЙМА ГЕРОЯ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ!»

**Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла звярнулася да беларусаў.**

Дарагія Суродзічы,

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую Вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам, Днём Волі, калі наш народ, пасьля доўгага прыгнёту, абвясьціў сьвету, што ён таксама хоча быць гаспадаром на сваёй зямлі.

Дарагія Суродзічы,

Здабылі мы незалежнасьць 25 сакавіка 1918 году і зьберагллі дасюль ідэалы 25 сакавіка, нягледзячы на шматлікія перашкоды, таму што былі між намі героі, якія разумелі цану волі і бязьмежна любілі свой край і свой народ.

Гэтае маё Сакавіцкае прывітаньне хачу прысьвяціць аднаму з нашых сучасных герояў, над жыцьцём якога варожы рэжым зьдзекуецца сёньня — **Сяргею Каваленку.**

Што Сяргей дужы, адважны і патрыёт — мы даўно ведалі.

Толькі ворагі не адчулі радасьці, калі ён ўзьлез на калядную ялінку ў Віцебску з Бел-Чырвона-Белым Сьцягам у руках. Гэтыя ворагі сёньня стараюцца яго зьнішчыць.

Словы, якія Сяргей перадаў нам праз жонку Алену, застануцца ў сэрцы кожнага беларуса.

Сяргей папрасіў, каб сьвяткавалі Дзень Волі з Бел-Чырвона-Белымі Сьцягамі ў руках. Гэта будзе падтрымкай і для яго.

Ён заявіў, што дабрабыту ня можа быць без культуры, а падмуркам культуры зьяўляецца родная мова, і што трэба шанаваць свае нацыянальныя каштоўнасьці — гісторыю І мову.

Сяргей сказаў, што мы самі — наш беларускі народ — уратуе сваю краіну, і толькі тады падтрымаюць нас іншыя краіны. Таксама сказаў, што толькі беларускі народ можа дапамагчы яму выйсьці з гэтага цяжкага стану.

Дарагія суродзічы, не расчаруйма героя! Ён верыць у нашую беларускасьць і ў нашую мужнасьць. Ён верыць у свой народ і гатовы аддаць сваё жыцьцё дзеля гэтае веры. Будзьма годнымі героя! Як напісаў Антось са Слуцку: наша чарга дзейнічаць! Кожны чым і як можа. Дзесяць мільёнаў галасоў не застануцца без адказу!

Дык памажы нам Божа! Памажы Божа Сяргею Каваленку!

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла, Старшыня Рады БНР.**

# ЗАМЕЖНЫ ДОЎГ ДАСЯГНУЎ 34 МІЛЬЯРДЫ ДАЛЯРАЎ

**Кожны беларус цяпер вінаваты 3595 даляраў.**

Валавы знешні доўг Беларусі за 2011 год павялічыўся на 5 млрд. 627,3 млн. долараў, або на 19,8%, і на 1 студзеня 2012 года склаў 34 млрд. 28,4 млн. долараў, паведамілі ў Нацбанку.

У разліку на душу насельніцтва валавы знешні доўг на 1 студзеня 2012 года вырас на 600 долараў, ці на 20%, і склаў 3.595 долараў супраць 2.995 долараў на 1 студзеня 2011 года.

У структуры сукупнага знешняга доўгу знешні доўг органаў дзяржаўнага кіравання за 2011 год вырас на 22,8% да 12 млрд. 351 млн.

Знешні доўг органаў грашова-крэдытнага рэгулявання на 1 студзеня 2012 года склаў 1 млрд. 529,7 млн., знізіўшыся на 17,5%. Завінавачанасць камерцыйных банкаў вырасла на 5,6% да 6 млрд. 77,4 млн. долараў ЗША.

Знешні доўг іншых сектараў эканомікі склаў 13 млрд. 64,3 млн. долараў, павялічыўшыся за год на 31,8%. Прамыя інвестыцыі (міжфірменнае крэдытаванне) выраслі на 21,8% да 1 млрд. 6,0 млн. долараў на 1 студзеня 2012 года.

Паводле звестак Нацбанка, на абслугоўванне знешняга доўгу за мінулы год у Беларусі было накіравана 6 млрд. 320,7 млн. долараў, што склала 11,6% ВУП, ці 13,5% экспарту тавараў і паслуг. З іх 5 млрд. 405,2 млн. — выплаты па асноўным доўгу, а 915,5 млн. — плацяжы па працэнтах.

Валавы знешні доўг Беларусі ўяўляе сабою нявыплачаную суму фактычных наяўных і неабумоўленых абавязацельстваў, якая патрабуе выплаты асноўнага доўгу і/або працэнтаў дэбіторам у наступны перыяд часу і ўяўляе сабою абавязацельствы рэзідэнтаў Беларусі перад нерэзідэнтамі.

Валавы знешні доўг складаецца з даўгоў органаў дзяржаўнага кіравання, органаў грашова-крэдытнага рэгулявання, банкаў і іншых сектараў эканомікі.

**Аляксей Арэшка, БелаПАН**

**«НАША ЖИЗНЬ»** - общественная газета. Издатель - коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор - **Христафор Желяпов.** Вёрстка - **Сергей Солидный.** Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# ЦІ ВАРТЫЯ МЫ СВАБОДЫ І НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ?

**Шаноўныя чытачы незалежных беларускіх СМІ!**

94 гады таму, 25 сакавіка 1918 году, у цяжкіх умовах акупацыі заходнімі й усходнімі захопнікамі, 77 найлепшых сыноў і дачок Беларусі, сябраў Рады БНР, знайшлі ў сабе сілы і мужнасьць абвясьціць на ўвесь сьвет: "Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю вольнаю дзяржавай". Дзяржавай, дзе ўладу мае сам народ.

Ідэалы 25 Сакавіка вялі на змаганьне й ахвяры сотні тысячаў патрыётаў, якія нават у найцяжэйшыя часы верылі, што беларускі народ будзе жыць у сваёй свабоднай дзяржаве.

І гэтае змаганьне дало плён.

27 ліпеня 1990 году Вярхоўным Саветам Беларускай ССР прынятая Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце. 19 верасьня 1991 году наша краіна назвалася Рэспубліка Беларусь, гістарычныя бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня" сталі дзяржаўнымі сымбалямі. 8 сьнежня 1991 году кіраўнікі Беларусі, Украіны і Расеі пацьвердзілі сваімі подпісамі канец савецкай імпэрыі.

15 сакавіка 1994 году Вярхоўны Савет прыняў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якая гарантавала грамадзянам нацыянальныя, сацыяльныя і палітычныя правы.

Перад краінай адкрываўся шырокі шлях да свабоды, дабрабыту і імклівага разьвіцьця.

У 1994 годзе, мы дапусьцілі на прэзідэнцкую пасаду дэмагога і папуліста, фактычна адмовіліся ад свабоды, ад адказнасьці за сябе і за сваю краіну, ад права выбіраць сабе іншую ўладу.

Сёньня заробак у Беларусі меншы за заробкі ў Расеі і Кыргызстане, ня кажучы ўжо пра Польшчу ці Эстонію. Больш як мільён нашых працавітых суграмадзянаў мусілі зьехаць за мяжу.

Рэжым ужо распрадае нашыя прадпрыемствы расейскім алігархам, кітайскаму і арабскаму бізнэсу, ужо пачаў засяленьне нашай зямлі кітайскімі каляністамі.

Дзясяткі людзей сядзяць у турмах, бо крытыкавалі дыктатара ці пасьмелі быць яго супернікамі на выбарах. Дзясяткі тысячаў сядзяць па лжывых абвінавачваньнях, бо перашкаджалі "бізнэсу" дыктатара і мясцовых наменклятурных "мафіяў". Мільёны жывуць пад страхам беззаконнага звальненьня паводле кантракту.

Беларуская мова, нацыянальная культура, праўдзівая гістарычная памяць загнаныя ў рэзэрвацыю.

Калі так пойдзе далей, беларусу ня будзе месца ва ўласнай краіне.

Каб зьмяніць сваё становішча, нам трэба ня быць паслухмянымі рабамі, не даваць рэжыму рабіць выгляд, нібыта ў Беларусі адбываюцца сапраўдныя выбары, ня ўдзельнічаць у іх злачыннай фальсыфікацыі.

Нам трэба 25 сакавіка, усім разам, выйсьці на вуліцы й плошчы Менску і запатрабаваць:

**СПЫНІЦЬ ЗДАЧУ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ КРАІНЫ!**
**СВАБОДУ ЎСІМ ПАЛІТЫЧНЫМ ВЯЗЬНЯМ!**
**НОВЫЯ СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ!**

І ня трэба ківаць на несьвядомы народ і на апазыцыю, якая яго не адукавала і не перавыхавала. Вы ж адукаваныя! Вы ж усё ведаеце і ўсё разумееце! Што Вам перашкаджае, акрамя ўласнай ляноты, абыякавасьці і баязьлівасьці, узяць бел-чырвона-белы сьцяг і прыйсьці ў 13.00 да Акадэміі навук ці ў 15.00. на плошчу Бангалор на дазволены ўладамі мітынг? А чытачоў толькі "Хартыі", "Бел. Партызана", "Нашай Нівы" і "Народнай волі" у Менску болей 100 000 чалавек!

Сёньня, ад кожнага з Вас, персанальна, залежыць адказ на пытаньні: Ці вартыя мы свабоды і незалежнасьці? Ці захавае актуальнасьць наш нацыянальны вокліч: "ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!"?

**Віктар Івашкевіч**

# МАСАВЫЯ АКЦЫІ «ПЕРАСУНУЛІ»

**Ворша: месцы для масавых акцый «перасунулі» на ўскраіны**

Гарвыканкам вырашыў, што замест Прыдняпроўскага парку ў цэнтры Воршы і Цэнтральнага гарадзкога стадыёну людзям будзе зручней зьбірацца на мерапрыемствы на ўскрайках гораду. І такіх месцаў цяпер стала тры.

У пералік вызначаных пад масавыя акцыі месцаў трапілі Парк культуры і адпачынку льнокамбінату, парк каля Кургану Бесьсмяротнасьці і пляцоўка каля кавярні «Аронія».

«У льнокамбінацкім парку, які раней сапраўды быў цэнтрам культуры і адпачынку, цяпер няма ніводнага атракцыёну, і гэта нейкае закінутае месца. Знаходзіцца яно ў адным краі гораду, а вось пляцоўка каля кавярні «Аронія» — у супрацьлеглым, і таксама на самай ускраіне, у раёне рэмзаводу — ААТ "Оршааграпраммаш" па-сучаснаму. А парк каля Кургану Бесьсмяротнасьці — гэта некалькі алеек, дзе й пляцоўкі, каб сабрацца, па сутнасьці, няма. І знаходзіцца ён таксама не ў цэнтры — з цэнтру ўсё «перасунулі», — кажа кіраўнік суполкі партыі БНФ **Алесь Шутаў**.

Пра «перасоўваньні» гараджане даведаліся з «Аршанскай газэты», якая толькі 16 сакавіка надрукавала адпаведнае рашэньне, прынятае, аказваецца, яшчэ 30 студзеня. На афіцыйным сайце гарвыканкаму гэтае рашэньне не зьмясьцілі ўвогуле: там дагэтуль «вісіць» ранейшае, ад 2007 году — калі ў цэнтры яшчэ дазвалялася зьбірацца на акцыі.

**Радыё Свабода**

## ІНФАРМАЦЫЯ

У Віцебску працуе Еўрапейскі Інфармацыйны цэнтр. Жыхары горада могуць атрымаць неабходную інфармацыю пра Еўразьвяз і дзейнасьць інстытутаў ЕЗ кожныя чацьвер з 15.00 да 19.00, суботу з 12.00 да 18.00, нядзелю з 11.00 да 17.00. Запрашаем на вул.1-ю Сенненскую, д.5. Кантактны тэл. 27-23-39

# “НАРОДНЫ КАНТРОЛЬ – ЗА СУМЛЕННЫЯ ВЫБАРЫ!”

**Прэс-рэліз Партыі БНФ з нагоды старту кампаніі “Народны кантроль – за сумленныя выбары!”**

Партыя БНФ, ГА БНФ “Адраджэньне”, Рух “За Свабоду” і Беларуская партыя “Зялёныя” абвесьцілі пачатак кампаніі “Народны кантроль – за сумленныя выбары!”. Ад сёньня пачаўся набор валянтэраў.




20 лютага ў штаб-кватэры Партыі БНФ адбылася прэс-канфэрэнцыя з нагоды старту кампаніі “Народны кантроль – за сумленныя выбары!”. Партыю БНФ прадстаўляў намесьнік старшыні **Ігар Лялькоў**, ад Руху “За Свабоду” і Беларускай партыі “Зялёныя” прысутнічалі **Юрась Губарэвіч** і **Алесь Лагуцёнак** адпаведна.

Намесьнік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў напачатку сустрэчы адзначыў, што арганізацыі ўжо дамовіліся аб тым, што будуць выкарыстоўваць кампанію для актывізацыі грамадзянаў. Асноўная ідэя кампаніі “Народны кантроль – за сумленныя выбары!” – прыцягнуць як мага больш шырокія колы грамадства да непасрэднага ўдзелу ў кантролі за тым працэсам, які беларускія ўлады называюць выбарамі.

Усе суб’екты кампаніі “Народны кантроль – за сумленныя выбары!” зьяўляюцца зарэгістраванымі агульнанацыянальнымі арганізацыямі, якія могуць самастойна вылучаць прэтэндэнтаў на ўдзел у камісіях і назіральнікаў па ўсёй Беларусі на ўсіх акругах. Пры належнай актыўнасьці грамадзян ёсьць магчымасьць “закрыць” сяброўствам у выбарчых камісіях і назіраньнем усе 110 акругаў на “выбарах-2012”.

Партыя БНФ, ГА БНФ “Адраджэньне”, Рух “За Свабоду” і Беларуская партыя “Зялёныя” абвесьцілі набор валянтэраў, грамадзянаў РБ, для таго, каб рыхтаваць іх да назіраньня за выбарамі-2012.

Намаганьні ўдзельнікаў кампаніі будуць сканцэнтраваныя на тых акругах, дзе будуць вылучацца прадэмакратычныя кандыдаты, адзначыў Ігар Лялькоў.

Па словах намесьніка старшыні руху “За свабоду” Юрася Губарэвіча, мяркуецца, што валянтэры будуць працаваць на 25–30% выбарчых акругаў.

Далучыцца да кампаніі можна па тэлефонах: +375 17 3340827, +375 17 2845012, а таксама напісаўшы ліст на: uprava@narodny.org, info@belgreens.org, info@pyx.by

# ЛІКВІДАВАЦЬ “ДОШКУ ГАНЬБЫ”

Актывіст Руху “За свабоду!” **Леанід Гаравы** звярнуўся ў пракуратуру Гарадоцкага раёна з патрабаваннем аб ліквідацыі “Дошкі ганьбы”, якую у цэнтры Гарадка усталявала КУВП “Гарадоцкае прадпрыемства кацельных і цеплавых сетак”. Таксама актывіст патрабуе прадстаўлення іфармацыі аб колькасці сродкаў, якія выдаткоўваліся на яе усталяванне, рамонт і абслугоўванне.

З верасня 2011 года ў Гарадку на вул. Савецкай была ўсталявана “Дошка ганьбы за нявыплату камунальных паслугаў”. На ёй змяшчаюцца прозвішчы грамадзян, якія быццам бы маюць даўгі перад гэтым прадпрыемствам. Абураныя грамадзяне неаднаразова знішчалі спісы грамадзян, якія размяшчаліся на дошцы, а таксама ламалі гэтую “Дошку ганьбы”.

У звароце адзначаецца, што Рэспубліка Беларусь дэкларуецца як прававая дзяржава, ў якой дзейнічае прынцып прэзумпцыі нявінаватасці. Вінаватасць грамадзян перад законам устанаўліваюць органы ўпаўнаважаныя на гэта заканадаўствам у межах адміністрацыйнага, крымінальнага і іншага права.

Леанід Гаравы мяркуе, што КУВП “Гарадоцкае прадпрыемства кацельных і цеплавых сетак” не мае паўнамоцтваў устанаўліваць такую вінаватасць, а тым больш зняважліва, абразліва ставіцца да грамадзян, якія ў межах розных абставін не могуць своечасова заплаціць за камунальныя паслугі.

Сапраўды, чаго варта сітуацыя, калі грамадзяне пагоршылі свой жыццёвы узровень амаль у тры разы ў сувязі з некампетэнтнымі дзеяннімі кіраўніка краіны, урада і Нацбанка, калі ў 2011 годзе адбылася шалёная дэвальвацыя і інфляцыя і адпаведна ў некалькі разоў выраслі кошты на прадукты і прамысловыя тавары.

Дадзеная сітуацыя закранае і асабістыя інтарэсы Леаніда Гаравога, бо дадзенае прадпрыемства, па меркаванню актывіста, не выконвае перада ім сваіх абавязкаў адносна зваротаў грамадзян, а таксама парушае права спажыўца камунальных паслугаў. Яшчэ ў снежні месяцы мінулага года спадар Гаравы звярнуўся з лістом да кіраўніка прадпрыемства наконт таго што не аказваюцца паслугі па вывазу смецця ад дома 16 па вул. Галіцкага, а рахунак за гэта выстаўляецца штомесячна. У студзені месяцы спажывец звярнуўся да кіраўніка прадпрыемства пад час “прамой лініі” і выказаў гэтыя прытэнзіі, але за зіму так і не атрымаў адказ.

У сваім звароце актывіст Руху “За свабоду!” патрабуе прадставіць інфармацыю аб тым, хто прыняў рашэнне аб усталяванні “Дошкі ганьбы” ў Гарадку і колькі сродкаў выдаткоўвалася на яе усталяванне, рамонт і абслугоўванне. Адначасова з гэтым выказваюцца патрабаванні аб ліквідацыі “Дошкі ганьбы” у Гарадку, а таксама аб прынясенні прабачэння ўсім грамадзянам, якія трапілі на гэту “дошку” ў выніку самаўпраўных дзеянняў прадпрыемства.

Актывіст лічыць, што прадпрыемства можа толькі інфармаваць грамадства аб неплацельшчыках камунальных паслугаў, а не займацца самаупраўствам на абразе і знявазе сваіх суайчыннікаў. Ды і прадстаўленне такой адкрытай інфармацыі небяспечна, бо ёй могуць скарыстацца махляры для набыцця і прадажы кватэр неплацельшчыкаў. У рэшце-рэшт сёння не часы кітайскай культурнай рэвалюцыі, калі дзейнічалі дан-дзы-бао, а дваццаць першы век і дэкларуемая прававая дзяржава на Беларусі.

**Л. Антонаў http://haradok.info/**